© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



Рэпрадукцыя з карціны Залескага «Крэпасць Брэст-Літоўск у 1840 годзе».




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 25 (538) Год XI 19 ЧЭРВЕНЯ 1966 г. Цана 60 гр.



З гэтых рубяжоў пачалася вайна.

# ТУТ ПАЧАЛАСЯ ВАЙНА

Гэты ранак у Брэсцкай крэпасці амаль нічым не адрозніваўся ад звычайнага, хіба толькі тым, што цішэй было вакол. Але не паспела сонца падняцца ад гарызонта і рассеяць ранішні туман, як цішыню парушылі гарматныя залпы. На крэпасць пасыпаліся тысячы снарадаў і мін. У паветры злавесна круціліся самалёты з чорнай свастыкай, скідаючы на яе старыя сцены сотні тон смяротнага грузу. Так 22 чэрвеня 1941 года ў нашу краіну прыйшла вайна.

Пад варожым агнём гарэлі і разбураліся крэпасныя будынкі, гінулі людзі, не паспеўшы праснуцца і зразумець, што адбываецца. Ашаломленыя страшэнным абуджэннем жанчыны і дзеці ў полымі пажару мітусіліся на крэпасным двары. У гэтыя першыя хвіліны неспадзеўнага нападу нацыстаў загінула амаль палавіна гарнізона крэпасці.

Нямецка-фашысцкія захопнікі разлічвалі ўзяць крэпасць адразу. Пад прыкрыццём моцнага артылерыйскага і мінамётнага агню ім удалося фарсіраваць раку Заходні Буг, зламаць рэдкія рады савецкіх пагранічнікаў і з усіх бакоў уварвацца ў крэпасць.

Значны атрад нямецкіх аўтаматчыкаў пранікнуў у самы цэнтр цытадэлі. Захапіўшы вялікі будынак былой царквы, праціўнік трымаў пад агнём выхады з казармаў.

Нямецкаму камандванню здавалася, што з крэпасцю ўжо закончана. Але ў той час здарылася тое, чаго вораг зусім не спадзяваўся. Адышоўшы ад першапачатковай разгубленасці, гарнізон крэпасці пачаў барацьбу.

Ужо ў першай палове дня страты немцаў узраслі да такой ступені, што пасля поўдня камандзір 45 нямецкай дывізіі, якая штурмавала крэпасць, вымушаны быў даць загад аб адводзе сваіх войск за крэпасныя валы, стараючыся зламаць супраціўленне абаронцаў крэпасці інтэнсіўным артылерыйскім агнём і бамбёжкай з паветра.

Але ні шквальны артылерыйскі агонь,

(Працяг на стар. 6)



Ля помніка загінуўшых воінаў (Гарнізонны могільнік Брэста).



Рэпрадукцыя з карціны П. Крываногава «Абаронцы Брэсцкай крэпасці».

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

■ Міністр замежных спраў Польшчы Адам Рапацкі ў мінулым тыдні вярнуўся са Швецыі, дзе зладжыў афіцыйны візіт. Быў ён прыняты каралём, прэм'ерам, і некалькі разоў гутарыў са сваім калегам міністрам замежных спраў. Пасля прыезду ў Польшчу міністр Рапацкі сказаў, што «быў гэта важны візіт». Польска-шведскія суадносіны пасля гэтага візіту яшчэ больш замацуюцца і паглыбляцца. А. Рапацкі заявіў, што ў Швецыі ішла размова аб «вельмі канкрэтных справах» (гэтае сцвярджэнне кіраўніка замежных спраў многа за сябе гаворыць).

Вынікі візіту наступныя: 1) У справе в'етнамскай вайны абодва ўрады згодны, што пагражае яна міру і што мірная развязка гэтай праблемы можа наступіць толькі абапіраючыся на Жэнеўскія пагадненні і самавызначэнне В'етнама, 2) Польшча і Швецыя адчуваюць патрэбу склікання канферэнцыі ў справе бяспекі Еўропы, 3) Як вельмі актуальную і важную праблему ўрады бачаць справу безатамных зонаў, 4) Далей і мацней будзе развівацца супрацоўніцтва і абмен у галіне культуры, турызма і спорту. Трэба дадаць, што калі разыходзіцца пра безатамныя зоны, шведы адчуваюць да Польшчы, а перад усім да іх аўтараў А. Рапацкага і Ул. Гамулкі, велізарную сімпатыю. Шведскі міністр замежных спраў нават заявіў, што краіны Скандынавіі па сутнасці ўжо з'яўляюцца такой зонай.

■ Еўропа, і не толькі, пачынае жыць справамі візіту прэзідэнта Францыі дэ Голя ў СССР. Праграма паездкі вельмі багатая. І так, дэ Голь будзе выступаць пяць разоў. Дзесяць гадзін прысвячаецца на размовы з савецкімі кіраўнікамі дзяржавы і ўрада. У Маскве генерал дэ Голь будзе назіраць агляд войск, які адбудзецца ў яго гонар. Трэба адзначыць, што дэ Голь — гэта першы кіраўнік дзяржавы, якому ў Савецкім Саюзе арганізуецца агляд войск.

■ Адзін з брытанскіх філосафаў выслаў в'етнамцам пісьмо, у якім заяўляе, што арганізуе трыбунал, які будзе судзіць амерыканцаў за іх здзекі ў В'етнаме. Да гэтага трыбуналу запрашае многія індывідуальнасці свету.

■ У сувязі з тым, што ў апошнім часе насілілася барацьба будыстаў супроць паўднёвав'етнамскай юнце Кі і амерыканскай агрэсіі, некаторыя чытачы пытаюць: якая розніца паміж змагаючыміся будыстамі а партызанамі, паколькі і адны і другія змагаюцца супроць гэтым самым ворагам? Гэта правільна. Справа ў тым, што **будызм** — гэта рэлігія і то рэлігія бедных. У радах яе веравызнаўцаў і манахаў не якіясьці там «старыкі», але часта маладыя людзі, адукаваныя. Многія з іх кончылі ўніверсітэты ў Францыі ці Англіі. Будысты імкнуцца толькі да таго, каб паўстаў канстытуцыйны ўрад выбраны народам легальна. **Партызаны — Фронт нацыянальнага вызвалення** — гэта **партыя,** якая дарогаю барацьбы хоча вызваліць сваю краіну. **(А. К.)**

## БССР

**ПАЛІЭТЫЛЕНАВЫ**

На поўначы Беларусі, у Новаполацку, будуецца адзін з найбольшых у Савецкім Саюзе паліэтыленавы завод.

**ГОСЦІ**

У Мінску пабывала вялікая дэлегацыя нямецкіх абаронцаў міру, якая прыбыла ў сталіцу Беларусі спецыяльным поездам.
Пабывала тут таксама дэлегацыя навуковых супрацоўнікаў Інстытута гісторыі Балгарскай камуністычнай партыі.

**УСПАМІН**

У апошнім, шостым нумары часопіса «Полымя» надрукавана кароткі ўспамін беларускага пісьменніка Піліпа Пестрака з ягонай пабыўкі ў Беластоку ў час навукова-папулярнай сесіі, прысвечанай 40-годдзю Грамады. Адбылася гэта сесія — як вядома — 27 кастрычніка 1965 г.
П. Пестрак м. ін. цёпла ўспамінае свае знаходжанне ў ГП БГКТ і «Ніве».

**КАМУНІКАЦЫЯ**

Каля 65 працэнтаў населеных пунктаў Беларусі звязана аўтобуснай камунікацыяй. Існуе 2 400 аўтобусных ліній, агульная даўжыня якіх складае 126 500 кіламетраў. Гэтыя даныя апублікавала газета «Советская Белоруссия», якая правяла інтэрв'ю з міністрам аўтатранспарта Беларускай ССР А. Андрэевым.

**ЮБІЛЕЙ**

Мінскі трактарны завод адзначае дваццацігадовы юбілей. Створана гэты завод у 1946 годзе.

**ДАПАМОГА**

Беларусь памагае пацярпеўшым ад землетрасення жыхарам далёкага горада Ташкент. Туды адпраўлена шмат securities розных тэхнікі і тавараў шырокага ўжытку. Нядаўна выехала туды 300 кваліфікаваных рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў.

**ЧЭМПІЁНЫ**

Чэмпіёнам ССР па фехтаванню на шпагах стаў мінскі спартсмен Юры Смалякоў. Другое месца заняў таксама мінчанін Аляксей Нікачнчыкаў.

**ЦЯЖКАСЦІ**

Нашы беларускія актывісты часта заўважаюць, што кальпартаж нашай «Нівы» ў некаторых гарадах адбываецца вельмі кепска па той прычыне, што ў некаторых кіёсках не стараюцца рэкламаваць яе або проста выкладаць «Ніву» ў відным месцы.
Падобныя цяжкасці перажываюць і беларускія савецкія газеты. Апошнім часам вельмі многа пішацца на гэту тэму ў мінскіх газетах «Чырвоная змена», «Літаратура і Мастацтва» ды інш. Напрыклад у «Літаратуры і Мастацтве» публікуюцца пісьмы чытачоў, якія сустракаюцца з цяжкасцямі ў набыцці цікавячых іх беларускіх газет і кніжак. Прадстаўнік «Чырвонай змены» правёў абход кіёскаў Мінска і сцвердзіў, што асноўную віну за дрэнны кальпартаж беларускага друку нясуць нядбайныя працаўнікі кіёскаў, а таксама «рухаўскія» ўстановы, якія не дбаюць пра належную рэкламу і ўстаноўку планаў продажу. Беларускія газеты... «ляжаць дзесьці пад прылаўкам» — піша м. ін. Г. Маглава, чытач «Чырвонай змены». (СЯ)

## ПОЛЬШЧА

**35 ПОЗНАНСКАЯ ЯРМАРКА**

У нядзелю 12 чэрвеня г. г. прэм'ер-міністр Ю. Цыранкевіч адкрыў юбілейную 35 Познанскую ярмарку. Прымае ў ёй удзел 2 600 розных фірм з 48 дзяржаў.

**У 45 ГАДАВІНУ III ШЛЁНСКАГА ПАЎСТАННЯ**

На гары Святая Анна пад Аполем на вялікім амфітэатры сабралося ў нядзелю 12 чэрвеня г. г. каля 150 тысяч асоб, каб адзначыць 45 гадавіну III Шлёнскага паўстання, удзельнікі якога змагаліся за прылучэнне Апольшчыны да Польшчы. Урачыстасці праходзілі пад лозунгам: «Былі мы — мы ёсць — мы будзем»!

**700-ГОДДЗЕ КАШАЛІНА**

Прыморскі горад Кашалін у апошніх днях адзначаў 700-годдзе свайго існавання. Пасля асвабаджэння — 3 красавіка 1945 года — распачаўся новы слаўны перыяд у яго развіцці. У 1950 годзе Кашалін стаў ваяводскім цэнтрам і важным прамысловым горадам. Знаходзяцца там фабрыкі: сельскагаспадарчых машын, паперы, перапрацоўкі рыбы, хімікатаў і будаўляных матэрыялаў. У Кашаліне асабліва многа моладзі.

**ПРЫВІЎКА НЫРКІ**

25-цігадовая жанчына з Верхняга Шлёнска ў час няшчаснага выпадку (упала з высокага рыштавання) пашкодзіла ныркі. Ёй пагражала смерць. Праф. др Віктар Брос з Вроцлава рашыў зрабіць прывіўку ныркі, якую даў бы другі жывы чалавек. Няшчаснай жанчыне аддаў сваю нырку яе брат, 30-цігадовы мужчына, бацька двух дзяцей. Аперацыя ўдалася. Хворая і яе брат адчуваюць сябе добра.
Падобную аперацыю правялі лекары варшаўскай клінічнай бальніцы. 20-цігадовая Данута Мілеўская пасля стодзённай пабыўкі ў бальніцы ўжо здаровая пайшла дадому.

**ІШТАД — СВІНАУЙСЦЕ — КРАКАЎ — ЗАКАПАНЭ**

Польшчу са Скандынавіяй праз Балтыйскае мора спалучае пром «Вісборг». Возіць ён скандынаўскіх турыстаў, якія летам жадаюць пабываць у нашай краіне. Пром адплывае са шведскага горада Іштад і прыбывае ў Свінауйсце распалажанае на польскім беразе Балтыкі. Там ужо чакае турыстаў спецыяльны асабліва хуткі цягнік «Лятаючы швед», які за 10 гадзін прыбывае ў Кракаў. Перавозіць ён каля 250 пасажыраў. Са Свінауйсця ў Кракаў — 750 км. «Лятаючы швед» з'яўляецца найбольш хуткім цягнікам у Польшчы. Яго хуткасць на некаторых адрэзках шляху дасягае 100 км/гадз. Дзякуючы такому спалучэнню скандынаўскія турысты атрымалі магчымасць за 20 гадзін часу прыехаць з Іштад у Закапанэ.

**ВЁСКА Ў АДНЫМ ГМАХУ**

У Катавіцах будуюць зараз жылы «блёк», якога дагэтуль яшчэ не было ў Польшчы. На 17-ці паверхах змесціцца ў ім звыш 2 900 жыхараў.

**ТРАЙНЯТЫ**

Жыхарка вёскі Гжыбна ў Люблінскім ваяводстве — Яніна Гронская нарадзіла трайняты — двух хлопчыкаў і адну дзяўчынку. Роды адбыліся ў паятовай бальніцы горада Хэлм. Маці і дзеці адчуваюць сябе вельмі добра.

## ВАЯВОДСТВА

**СЕЙМІК КУЛЬТУРЫ**

У прысутнасці прадстаўнікоў Цэнтральнага Камітэта ПАРП, Галоўнага Камітэта ЗСЛь і Міністэрства культуры 12 чэрвеня г. г. адбыўся ў Беластоку Ваяводскі сеймік культуры, на які з усіх куткоў Беласточчыны прыбыло звыш 500 дэлегатаў. Адкрыў сеймік намеснік старшыні Прэзідыума ВРН, Людвік Ахоцкі, які таксама сардэчна прывітаў усіх прысутных. Затым віцэ-міністр культуры і мастацтва З. Гарстэцкі ўручыў значок: «Заслужаны дзеяч культуры» шматгадовай работніцы ваяводскай і гарадской бібліятэкі ў Беластоку, Вандзе Адляніцкай-Пачабут. Адначасова быў аб'яўлены спісак асоб узнагароджаных грашовымі прэміямі за заслугі ў распаўсюджванні культуры. З праграмнай прамовай аб дасягненнях і асноўных напрамках развіцця культурнага жыцця на Беласточчыне выступіў сакратар прапаганды Ваяводскага камітэта ПАРП тав. В. Мікульскі.
Канчаючы пасяджэнне Ваяводскі сеймік культуры выбраў дэлегатаў на Кангрэс польскай культуры, які адбудзецца ў Варшаве ў кастрычніку г. г., а таксама прыняў пастанову аб асноўных напрамках культурнай дзейнасці ў Беластоцкім ваяводстве.
Сеймік праходзіў у беластоцкім тэатры імя А. Вянгеркі. Артысты гэтага тэатра ўдзельнікам сейміка адыгралі п'есу «Хтосьці новы».

**ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА**

Дом культуры ў Гарадку даўно мы ўжо называлі іменем беларускага прагрэсіўнага барацьбіта Кастуся Каліноўскага. Але вось у мінулую нядзелю 12 чэрвеня адбылася ўрачыстасць афіцыяльнага — на аснове рашэння Міністэрства культуры і мастацтва — прысваення Гарадоцкаму дому культуры гэтага ганаровага і забавязваючага звання. Урачыстасць саўпала з 21 гадавінай заснавання Беластоцкай часці войск аховы граніцы. Жыхары Гарадка адзначылі гэтую падзею ўрачыстым пасяджэннем.

**ЗЛЁТ МОЛАДЗІ**

У нядзелю 19 чэрвеня г. г. адбудзецца ў Беластоку вялікі злёт моладзі з цэлага ваяводства. Моладзь свой злёт вітае шматлікімі грамадскімі і прадукцыйнымі чынамі. Для прыкладу: вартасць чыну моладзі Сейненскага павета сягае 36 тысяч злотых. Паасобныя паветы спаборнічаюць між сабой, каб як найбольш прыгожа паказацца на злёце. Усе яго ўдзельнікі атрымаюць у падарунку памятковыя хусткі. Іх можна будзе купіць таксама ў крамах. А пачынаючы ад панядзелка 13. VI. 1966 г. на пошце Беласток I ўсе лісты штэмпляваліся спецыяльным паштовым штэмплем.

**НОВЫ ЗАВОД У СУВАЛКАХ**

У Сувалках закончана пабудову новага прадпрыемства, якое будзе прадукаваць стружкавыя пліты. Урачыстае адкрыццё прадпрыемства адбудзецца 5 чэрвеня ў прысутнасці віцэ-прэм'ера З. Новака. На пабудову прадпрыемства спатрэбілася каля 136 мільёнаў злотых. Знойдзе там працу 350 асоб.

# Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA, 19. VI.**

9.25 Program dnia; 9.30 „Muzeum Sztuki Krajów Wschodu": Wietnam (Moskwa); 10.10 „Dzieci do wzięcia" — film fab. USA; 11.50 „Pojezierze Drawskie" — rep. film; 12.05 Wiad. dz. TV; 12.15 „W starym kinie"; 13.15 PKF; 13.25 Dla dzieci: „Czas pożegnania" („Ula z II b"); 13.50 „Geologowie" — rep. film. („Ludzie i zdarzenia"); 14.05 „Muzyka w Łańcucie"; 14.35 „Świat, obyczaje, polityka"; 14.55 „Metamorfozy" — program muzyczno-baletowy. Wykonawcy: Zespół baletowy oraz Poznański Zespół Perkusyjny Współczesnej Muzyki; 15.15 „Nasze typy" — program rozrywkowy w wykonaniu piosenkarzy, typowanych przez TV na Festiwal Piosenki w Opolu; 16.00 „Szklana Niedziela"; 16.10 Sprawozdanie sportowe; 17.00 „Szklana Niedziela" (II); 17.10 Sprawozdanie sportowe; 19.30 „Szklana Niedziela" (III); 19.35 „Dobranoc"; 19.45 Dziennik TV; 20.15 „Szklana Niedziela" (IV); 20.25 „Rudzielec', — film fab. fr. od lat 16; 21.55 Sportowa Niedziela;

**PONIEDZIAŁEK 20. VI.**

16.50 Program dnia; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla dzeci: „Poly i tajemnica siedmiu gwiazd" — film; 17.15 Dla młodych widzów: „Z busolą na szlak"; 17.35 „Klakson" — mag. turystyczny; 17.50 „Giełda reporterów"; 18.20 Kino Krótkich Filmów; 18.50 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennki TV; 20.00 Teatr TV: „Chłopcy" St. Grochowiaka. Obsada: K. Opaliński, Z. Mrożewski, A. Dzwonkowski, G. Lutkiewicz, B. Płotnicki, Z. Rysiówna; B. Ludwiżanka, Z. Małynicz, J. Barańska, K. Borowicz, E. Zagórska; 21.30 „Na półkach księgarskich"; 21.40 Dziennik TV; 21.50 22 lekcja jęz. ang.

**WTOREK 21. VI.**

10.00 „Nieprzyjaciel u progu" — film fab. radz.; 11.15 Przerwa; 16.15 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Fizyka (Zadania z różnych działów fizyki cz. I). Wykładowca: doc. M. Kryszewski (Gdańsk); 16.45 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: Kino „Ptyś"; 17.15 „9 minut" — teleturniej; 17.45 Film; 18.00 „Spotkania z przyrodą" — program film; 18.25 Dla młodych widzów: „Zapraszam na wtorek wieczór" — wizyta u prof. T. Lewickiego (Kraków); 18.55 „Bryza"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Kryptonim Kuranty" — film pol.; 20.20 „Nieprzyjaciel u progu" — film. fab. radz. od lat 16; 21.35 Dziennik TV; 21.45 „Na wielkim ekranie" — „Canneńskie roczarowania"; 22.15 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Fizyka (Zadania z różnych działów fizyki cz. I) Wykładowca: doc. M. Kryszewski (Gdańsk); 22.45 22 lekcja jęz. franc.

**ŚRODA 22. VI.**

10.00 „Siedem czarnych pereł" — film („Baron"); 10.50 Przerwa; 15.40 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Matematyka (Podsumowanie) Wykładowca: doc. dr W. Żakowski (Wrocław); 16.30 Program dnia; 16.40 PKF; 16.50 Wiad. dz. TV; 16.55 Dla młodych widzów: „Pół godziny z całym światem"; 17.25 „Relikt czy partner"; 17.55 Sprawozdanie sportowe; 18.50 Wszechnica TV: „Groźni sprzymierzeńcy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Siedem czarnych pereł" — film („Baron"); 21.05 „Światowid" — mag. spraw międzynarodowych; 21.30 Dziennik TV; 21.40 „O książce"; 21.55 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Matematyka (Podsumowanie) Wykładowca: doc. dr W. Żakowski (Wrocław); 22.45 22 lekcja jęz. ros.

**CZWARTEK 23 VI.**

16.25 22 lekcja jęz. franc.; 16.45 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla młodych widzów: „Na Rozewskiej Blizie" — rep. z Latarni Morskiej w Rozewiu; 17.30 „21" — teleturniej; 18.00 „Nie tylko dla pań" — mag; 18.20 Informator handlowy; 18.30 „Muzyka i poezja" (H. Wieniawski i J. Iwaszkiewicz: 19.00 Tygodnik wiejski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Film; 20.15 „31 stopni w cieniu" — film fab. CSRS od lat 16 (sensacyjny); 21.35 „Miniatury"; 22.00 Dziennik TV, 22.10 „Uśmiechnięty mężczyzna" (wyznanie mordercy) — film TV NRD.

**PIĄTEK 24. VI.**

16.15 22 lekcja jęz. ang.; 16.35 Program dnia; 16.45 TV Stadoin Interwizji (Praga); 17.40 Wiad. dz. TV; 17.45 Dla dzieci „Miś z okienka"; 18.00 „3 x tak" — program historyczny; 18.30 „Wielokropek" — tyg. aktualności satyrycznych 18.45 Wszechnica TV: „Loteria życia codziennego" („Czy państwo lubią matematykę?"); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Miasto na skraju puszczy" — („Z kamerą po kraju"); 20.15 Festiwal Piosenki w Opolu (Opole); W przerwie ok. 21.10 „10 minut recenzji"; Po transmisji ok. 22.15 Dziennik TV.

**SOBOTA 25. VI.**

10.00 „Cytrynowy Drops" — film. fab. USA; 11.30 Przerwa; 15.20 22 lekcja jęz. ros.; 15.40 Program dnia; 15.50 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.05 Program tygodnia; 16.15 „Najstarszy port wojenny" — transmisja z Centralnych uroczystości Święta Morza w Pucku; 18.15 „Po szóstej" — Młodzieżowy Klub TV (Szczecin); 18.55 „Między Legnicą a Głogowem" — rep. film. („Spotkania z Tysiącleciem"); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Film; 20.15 Festiwal Piosenki w Opolu (Opole); W przerwie ok. 21.10 Dziennik TV; 22.15 Wiadomości sportowe; 22.25 „Cytrynowy drops" — film fab. USA od lat 14.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ЧАРАДЗЕЙСКАЯ ПАЛАЧКА

Мы жылі на дачы недалёка ад горада. Сёння іменна павінен быў прыехаць да нас знаёмы майго бацькі. Ён доўга падарожнічаў па Аўстраліі і нядаўна адтуль вярнууся. Усе чакалі яго з нецярплівасцю, а асабліва я. Увесь час выходзіла на дарогу, каб паглядзець, ці яго яшчэ не відаць. Неўзабаве перад нашым домам затрымаўся чорны аўтамабіль. З аўтамабіля выйшаў чалавек у белым капелюшы. Радасна мы яго прывіталі. Ён пачаў расказваць здарэнні са свайго жыцця. Аднойчы на моры сустрэла параход, на якім ён ехаў, страшэнная бура. Аднак з гэтай катастрофы ён выратаваўся, таму што ў яго была чарадзейская палачка. Гэтая палачка магла выканаць толькі два жаданні. Мой бацька запытаўся: — Ці ваша палачка выканала вашы жаданні? Ён адказаў:

— Выканала.

Пры гэтых славах ён выцягнуў палачку. Гэта была звычайная палачка.

— Падарыце нам гэту палачку, — папрасіла я.

Ён падумаў трохі і адказаў:
— Прашу, вазьміце.

Бацька ўзяў палачку, паглядзеў на яе і палажыў на шкаф.

Незнаёмы хутка развітаўся з намі і паехаў. Была цёмная ноч. Усе спалі. Толькі я не магла заснуць, таму што бесперапынна думала аб палачцы. Урэшце вырашыла папрасіць палачку, каб яна выканала маё жаданне. Я ўжо даўно думала аб тым, каб паехаць у джунглю. Выканае жаданне ці не выканае, але трэба ўзяць з сабою штонебудзь. Тут я ўспомніла, што мой бацька мае заўтра ісці на паляванне і таму купіў новую стрэльбу. Не думаючы доўга, я хуценька пабегла, узяла стрэльбу і компас. Ціхенька падышла да шкафа, узяла палачку і сказала:

— Хачу знайсціся ў джунглі над Амазонкай. Заплюшчыла вочы. Калі іх адкрыла, то ўбачыла, што стаю над шырокай ракой. З ракі выглядала пашча кракадзіла. Я хацела гэтага кракадзіла застрэліць, але тут іх аказалася вельмі многа. Раслі тут прыгожыя высокія пальмы. Цераз густыя і высакаствольыя дрэвы ледзь-ледзь пераходзілі сонечныя праменні. Прыемна пахлі велізарныя рознакаляровыя кветкі. Птушкі спявалі. Цудоўна.

Куды цяпер ісці? Усюды пушча. Падумаўшы крыху, пачала ісці берагам ракі. Толькі лёгка сказаць — ісці. Шчасце, што мела пры сабе нож. Пры яго дапамозе ішла штораз далей. Нейкія калючыя кусты прычапіліся да мяне. Мне стала журботна. Я пачула, што хтосьці за мной наглядае. Не паспела аглянуцца, калі мяне акружылі індзейцы. Адабралі ад мяне стрэльбу, нож і компас. На палачку ніхто не звярнуў увагі. Завялі мяне ў сваю вёску. Пасадзілі пад пальмай і распалілі велізарнае вогнішча. Усе індзейцы хадзілі вельмі задаволеныя. Адзін з індзейцаў пагладзіў сябе па жываце і аблізаўся. І тут я зразумела. Яны хочуць мяне спячы і з'есці. Мне захацелася яшчэ крыху пажыць. Трэба развітацца са светам. Нечакана ўспомніла я пра палачку. Хутка сказала: — Хачу знайсціся ў сваёй хаце. Ужо быў ранак. Бацька хадзіў з пакоя ў пакой, усё шукаў стрэльбу.

— Дзе падзелася стрэльба?! — крычаў ён. Хацеў узяць палачку, але і палачкі не было. Толькі я ведала, дзе стрэльба і палачка. Не магла, аднак, ім сказаць, таму што і так бы не паверылі.

**ЦМ з Беларускага ліцэя**
ў Гайнаўцы

# СТАЛАСЯ

Быў вечар. Вёска пачынала ўжо засынаць. Усюды рабілася ціха. Толькі даносіліся галасы спяваючых дзяўчат у другім канцы вёскі. Сядзела я са сваёй сяброўкай у садзе, і любаваліся мы прыродай роднага кутка.

Дубамі, якія над намі распасціралі свае кроны і нешта шапталі з маленькім вецярком. Вішнямі і чарэшнямі, якія сваімі чырвонымі ягадамі ўпрыгожвалі сад. У садзе было прыемна і прыгожа, аднак мне чагосьці было страшна. Сэрца нібы прычувала нейкае няшчасце, але я па сабе гэтага не паказвала і старалася быць вясёлай.

Размаўлялі мы на розныя тэмы. Мы нават не заўважылі, што ўжо позна. Усюды яшчэ больш пацішэла. У такой цішыні, за гаворкай, мы нават забыліся, дзе сядзім. Аж раптам над намі пачуўся голас маёй сястры. Словы яе былі страшныя, яна моцна дыхала. «Сястрыца мая, даражэнькая, якія мы нешчаслівыя», — загаласіла яна. Я не ведала, што рабіць. У галаве мільганула думка. Напэўна штосьці ў хаце здарылася, я спыталася яе, «што здарылася, скажы?». Яна не гаварыла. «Што здарылася!» — зноў крыкнула я. Леначка праз слёзы вымавіла «мама» і зноў замоўкла. Тады я хутка пабегла ў хату. Хата выглядала як карчма. Не было ў ёй парадку. Вокны і дзверы былі адчыненыя, а на падлозе ляжала маці.

Была яна белая, як палатно, а з роту струменілася кроў. Сталася. Ніхто ўжо не паможа. Але ад чаго гэта? Ад чаго? Што было прычынай такой раптоўнай смерці? — пыталася я. У грудзях маіх закіпела. Я пачала дрыжаць, не магла ўстаяць на нагах, нічога не памятала. Мне не верылася. Няўжо ж яна памерла? Я пачала яе трасці і крыкнула «мама», аднак яна гэтага слова не пачула. Я не ведала, што рабіць, у які бок пахіліцца, каму сказаць. Усюды цёмна і ціха. Мне здавалася, што не толькі памерла мая маці, але памерла ўсё.

**Ірына Себясевіч**

# КЛУБ ліцэіста

## ВЕЧАРЫНА

У зале пануе джайф. Раве сакс. Барабаншчык валіць у барабан. Звіняць талеркі. Аж жах. Гармоні не чуваць. Моладзь шалее. Скача. Круціцца. Лётае амаль. Бухае жар, свабода. Радасць у вачах. Аркестр стоп. І ў зале цішыня. На некалькі хвілін. Затым нарастае гоман, шум.

Абарве яго танга або вальс. І пары ідуць у рух. Круцяцца. Як човен на ціхай вадзе. Плывуць. За парай пара. Адрозніць цяжка, то адно цела, ці мо два. З твараў радасць палымнее. Адны ад шчасця ў сёмым небе. Другія пад спакойна-пявучую музыку ўспамінаюць дні, калі сустракаліся, калі мілыя былі пры іх. І думкі гоняцца за імі. Дзе яны? Як жывуць? Ці вернуцца шчаслівыя хвіліны сустрэч з імі? А над залай плывуць гукі танга, якое напамінае аб усім.

**Мікола Іванчук**




*«Філіп» — Бельск: «Барбуша» сведчыць аб літаратурных здольнасцях яе аўтара, але ў кожным апавяданні павінна быць нейкая ідэя, думка, якую аўтар хоча запрапанаваць чытачу. У апісанай гісторыі нічога такога мы не знайшлі. Чакаем на новыя рэчы.*

*«Ніна» — Гайнаўка: «Апошняя вясна» вельмі надуманая, штучная. Лепш паспрабуй браць факты з жыцця.*

*Сябры ліцэісты! Будучы ў сваіх вёсках, збірайце цікавыя весткі з жыцця і гісторыі родных мясцін і дасылайце нам. Будзьце таксама прапагатарамі «Нівы». Прыемных канікулаў!*

## ДЗІЦЯ ПРАЎДЫ

*Вясёлы*
*з усмешкай*
*пад праменнямі сонца*
*ходзіш па горадзе*
*шчаслівы*
*пры табе сын*
*трохгадовы*
*трымаючыся за руку*
*ідзе*

*мацнее стук*
*твайго сэрца*
*аб будучым сына*
*падумаў*
*і ўсё*
*на душы трывожней*
*заплакаў*
*з'ява*
*перад вачамі*
*крывавы В'етнам*

*на зямлі*
*побач бацькі — партызана*
*мёртвы сын*
*закрываўлены*
*ля ног*
*салдата — захопніка*

*ты стаў*
*задумаўся*
*бацька за праўду*
*сын*
*за тое*
*што нарадзіўся ў В'етнаме*

*Генік Раманчук*




Набліжаўся вечар. Вялікае, змучанае сонца павольна апускалася за лес. Дзесьці далёка крычалі птушкі, а ў вёсцы чуліся галасы сабак. Яны з нецярплівасцю чакалі на сваю вячэру. У другім канцы вёскі адзываліся каровы і авечкі — гэта іх цэлы табун вяртаўся з балота. З іх галасамі зліваліся галасы пастухоў, якія праклінaлі найбольш шкодныя каровы. У самым канцы статкаў ішоў хлапчук год дзевяці, які левай рукой прытрымоўваў нешта белае за сваёй палатанай світкай, а праваю вымахваў велізарнаю пугай. Раптам, змучаны відаць, хлопчык спаткнуўся, і белая чыстая папера высунулася з-за пазухі проста ў лужу.

— Ой! Упала пісьмо ад Вані! Што мне скажа цяпер мама?.. — прагаварыў Коля.

Ён трымаў пісьмо, з якога сцякала брудная вада, не вытрымаў і заплакаў. З яго маленькіх шэранькіх вочак сплыло некалькі слязін велічынёй гарохавых зярнят. Яны ўпалі на пісьмо, як бы хацелі гэтым дапамагчы Колі абмыць дарагую паперу. Коля не ведаў, колькі слёз яшчэ будзе каштаваць гэтае пісьмо...

Авечкі ўжо зніклі з вачэй хлопца. Іх галасы чуваць было ў другім канцы. А ён усё стаяў у тым самым месцы ў глыбокай задуме. Раптам праз яго твар прайшла лёгкая ўсмешка. Відаць Коля развесяліў сябе нечым. Ён мабыць падумаў аб тым, як яго мама ўцешыцца, калі ўбачыць пісьмо ад любімага сына, не гледзячы на тое, у якім яно выглядзе.

Коля асцярожна выцер канверт аб палатняную сумку, у якую бярэ сабе заўсёды ежу, калі ідзе пасвіць авечкі ці каровы, і рушыў у напрамку сваёй хаты. У браме сустрэў яго Шарык. Ён лашчыўся, скакаў яму на грудзі. Коля выняў з сумкі кавалак хлеба, які застаўся яму яшчэ з абеда, і кінуў Шарыку. Той у падзяку замахаў сваім кудлатым хвосцікам і, праглынуўшы хлеб, чакаў на другія пачастункі. Але... Коля ўвайшоў на парог. З хаты пачуўся звон пасуды, а потым адчыніліся дзверы і ў сені выскачыў, як з рагаткі, кот Жучка, за якім Соня кінула яшчэ некалькі кіслых слоў.

— За што гэта яго, мама? — запытаўся Коля.

— А, лысы чорт, мне пасуду паразварочваў і пабіў дзве талеркі! Я яму пакажу, няхай дахаты не прыходзіць, — адказала маці на Коліна пытанне.

А потым дадала:

— А што ты, сынок, сёння такі сумны? Хіба за той праклятай Парасчынай каровай набегаўся...

— Што мне там каровы... У мяне і без іх ёсць спраў толькі, як у мяшку завязаць, — неяк спакойна адказаў Коля.

— Якія ж там у цябе справы, — зажартавала маці.

— Вось, напрыклад, ішоў, ішоў і як нэзлосць вось... ну, тое пісьмо ад Вані... ну, проста ў балота ўпала.

— Як?.. Што?.. А чаму ж ты, сынок, аб гэтым раней не сказаў, а літаваўся над тымі праклятымі катамі. Хутчэй, сынок, давай пісьмо ад Вані... Ну... гэта ж ужо чацвёртае прыслаў ад таго часу, як пайшоў у армію, — цешылася Соня.

Калі Коля аддаў ёй пісьмо, якое ўжо паспела больш-менш высахнуць, маці ўперш за ўсё звярнула ўвагу на чужы характар пісання. Яе твар спаважнеў, вочы нахмурыліся. Доўга ўглядалася на незнаёмыя словы і потым прагаварыла:

— Коля, можа з Ваняй што дрэннага здарылася, мне ж сёння такія дурныя сны сніліся цэлую ноч. Пабач, гэта ж не Ваня пісаў, што?..

— Але не ён. Я дагэтуль і не заўважыў.

Соня паволі, як бы баючыся, разрывала загадковае пісьмо. Коля нецярпліва чакаў на вынік.

— Ужо мама, дастала?

— Ужо сынок! — адказала.

Яна пачала чытаць:

«...паведамляецца Вас, што Ваш сын, Іван Рагульскі, дня 22 ліпеня 1952 года трагічна загінуў у...» Пісьмо вылецела з рук беднай маці. Яе твар умомант пачарнеў, валасы пасівелі. Яна, як падкошаная, звалілася з ног і закрычала немым голасам:

— Няма...!

— Мама! Вані няма? — як ашаломлены запытаўся Коля. Перад ім стала цёмна... Кругом цёмна. У галаве закружылася... Потым былі тыя чорныя кветкі. Яны раслі ў кожнай лужы... Былі такія калючыя...

За хвіліну цэлая хата Рагульскіх была запоўнена людзьмі. А па вёсцы пайшла сумная вестка: «У арміі трагічна загінуў сын Соні, тае, што жыве там, на ўскраіне сяла».

Многа прайшло год з таго часу. Цяпер Коля — машыніст. Старэнькая маці — Соня штодзённа выпраўляе яго ў горад. Ён у яе адзін, дарагі сынок. Аб горы, якое было даўно, Соня прыпамінае тады, калі гляне на сцяну, на якой вісіць партрэт, з якога ўсміхаецца малады чалавек у вайсковай форме. Сэрца яе тады сціскае велізарны боль, а перад вачыма стаяць наперамен: маленькі Коля з заплямяным пісьмом, то цяперашні Коля, за рулём самахода. З цягам часу вялікія раны на сэрцы старой жанчыны паволі зажываюць.

**Міхась Саевіч**

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

У ПОШУКАХ НЕСПАКОЙНЫХ

# СЯМЯЦІЦКІХ БЕЛАРУСАЎ СОН СПАКОЙНЫ

Так, у пошуках неспакойных знаходзім і спакойных. Беларусы ў Сямяціцкім павеце не належаць да актыўных. Цяпер, калі столькі трубім аб самастойнай ролі павета, ацэнцы ў маштабе павета, я сваю ацэнку ў некалькі словах падам. Ацэньваючы (з боку грамадска-культурнага) гэты павет, з цяжкім сэрцам паведамляю, што не магу пахваліцца беларускімі вёскамі. У сваім блакноце запісала многа сямяціцкіх вёсак, людзей, фактаў цікавых, але ўсе яны — польскія вёскі: Мажэц, Скужэц, Далубова, Следзянова, Радзішэва, Цехановец - горад. Людзі: **Юзэф Пшэслаў, Эва Коск, Збігнеў Акацкі, Антон Патэга, Ян Каліноўскі, Антон Пэрэкітка.** Факты: за паўтара мільёна злотых у Цеханоўцу збудавалі дом культуры — грамадскім чынам. Людзі працавалі ноччу, днём — была свая праца ў полі, ці ўстанове.

У Радзішэве прапала хуліганства, моладзь занялася культурнай працай, збіраецца ў збудаванай вёскай святліцы пры каве. Бабкі прыходзяць таксама — паглядзець.

У Журабіцах — гурток ЗМВ заініцыяваў адраджэнне. Пачалося ад навукі, калі трэба здымаць шапку.

*

Выключэннем і пацехай збалеламу сэрцу сталіся Мілейчыцы. Яшчэ некалькі год назад, ніхто б не падумаў, што такія жыццёвыя сілы дрэмлюць у гэтым мястэчку. А цяпер? Блішчаць у маштабе Сямяціцкага павета. Хоць толькі яны. І хоць **Янка Вішэнка** — дзелавы хлапец з тых жа Мілейчыц на павятовым сейміку культуры не выкарыстаў шанцаў, каб голасна, як іншыя, сказаць і пра сваіх, тым больш, што школьны інспектар і ніжэй падпісаная «правакавалі» яго да выступлення.

У Мілейчыцах, як мне казалі, ёсць найлепшыя ўмовы для паўстання першага ў павеце грамадскага цэнтра культуры. Толькі ў Мілейчыцах, на тэрыторыі з беларускім насельніцтвам, жыве ініцыятыва і дзейнасць, і людзі з амбіцыяй. А гэта ж найважнейшае! Гэтую думку выказаў проста малады хлапец **Генрык Точка** з польскай вёскі: «хочам, каб наша адсталая дагэтуль вёска сталася культурным цэнтрам». Такое жаданне няхай чуецца з усіх вёсак!

(вл)



Сям'я Андрэя Казлоўскага пляце кашы.

## Народная творчасць

У Міклашах, Бельскі павет, масава прадукуюцца саламяныя маты і кашы. У кожнай хаце цэлымі днямі і вечарамі кіпіць работа. Пляценнем кашоў і мат найбольш займаюцца жанчыны. Мужчыны спецыяльна малоцяць жыта цапамі, таму што толькі з-пад цэпа надаецца салома да гэтай прадукцыі.

У гэтым годзе жыхары Міклашоў выпрадукуюць толькі адных кашоў 16 тыс. За гэта атрымаюць звыш паўтара мільёна зл.

І так, за апошнія гады значна палепшылася жыццё жыхароў вёскі Міклашы. Знікаюць старыя драўляныя дамы і будуюцца мураваныя. Кожны другі гаспадар мае матацыкл і сціральную машыну, электрычны рухавік, які выкарыстоўвае да розных прац у гаспадарцы.

Тэкст і фота
*Павел Зіневіч*



Вольга Рыбак чысціць салому на сталёвай шчотцы.

# МАЕ ЗАЎВАГІ

Мае заўвагі наконт альманаху «Белавежа» не зусім прадуманы, напісаны эпіграмамі на падкладцы інстынктыўнага чуцця, таму не будзьце надта гнеўнымі, калі каго і зняважу.

**М. Забэйда**
Эй, жа, эй, беларускі салавей!

**Б. Склубоўскі**
Яго канёк — закон, мараль.
А талент! Не згубі, бо жаль.

**С. Яновіч**
То літарат! Маё прызнанне.
І недалёкі ў будучыні год,
Як наш Сакрат вялікім стане.

**Я. Цялушэцкі**
Складаецца не блага. Як гэта не саламяны агонь на літаратурных гонях.

**В. Рудчык**
Шчаслівага пуці. Расці.

**Д. Шатыловіч**
Паэт бывалы.
Варты пахвалы.

**С. Раманчук**
У прозе на ўвесь альманах
Сымонаў размах.
Тут паўстае пытанне:
Ці вытрымкі ў тварэнні стане?

**Ю. Зубрыцкі**
Не знаем дзе радзіўся, рос,
Ды знаем твой канёк: касмос.

**М. Гайдук**
У глыбіню вякоў утапіў свой зрок.
І робіць гэта не знарок.
Каб родны кут цаніць, кахаць,
Трэба жыццё прашчураў знаць.

**Ул. Гайдук**
Праправўнук былых гайдукоў,
Кіпіць у ім гарача кроў.
Ён селянін — дзіця прыроды,
Як след паэт ты ад прыроды.
Жыві шчасліва наш сябра,
Не пакідай свайго двара.

**І. Чыквін**
Умеркаваны ён наватар.
Крытык. З погляду — дыктатар!

**В. Швед**
Ён пясняр — рамантык, лірык,
Ён наш «Самасей» — сатырык.

**А. Барскі**
Энікур наш, будзь здароў,
Алесь Барскі з Бандароў!

**У. Дваракоўскі**
Што ж, бывае, што й араты
Прэцца — пнецца ў літараты.

**Я. Бурш**
У вершах Бурша разабрацца,
Трэба з аўтарам пазнацца,
Каб давёў, што да чаго
Піша ў вершах... й для каго.

Аб рэшце выказвацца ўстрымліваюся. Ацэнка была б паспешнай, а я і ў жартах сур'ёзны. Нічога сталага наконт іх мой інстынкт не падказвае. Баюся памыліцца. Значыць, давядзецца пачакаць на альманах № 2.

**Міхась Красоўскі**
Малынка

**P. S.** А то! Мая пашана І. Чыквіну, які асмеліўся (слушна) палажыць Бурша на талерку.
**М. К.**

# СЛАЎНЫЯ (1) ШАРАЛЕСЫ

## Сельская гаспадарка без таямніц

За найлепшага бугая ўсіх часоў прызнаны Каракалас. Ён важыў (хоць цяжка ў гэта паверыць) — 2050 кг. Гэта зусім афіцыяльная інфармацыя, якую падаў саюз французскіх жывёлагадоўцаў, якія гадуюць кароў шаралескай пароды. Шаралеская парода вядомая на ўвесь свет, як мясная парода. У апошні час яна зрабіла фурор у дзесятках краінах. Ужо мінуў час, калі англійскія пароды (шартгорны і герафорды) трымалі непадзельнае першынство.

Гэтую цікавую звестку падаем не таму, каб хваліць дасягненні нашых партнёраў у шматлікіх гандлёвых умовах сельскагаспадарчай прадукцыі.

Мы ўжо пісалі аб скрыжоўванні ў гэтым раёне жывёлы чырвонай польскай пароды. Галоўным дрэнным бокам гэтай працы з'яўляецца змяншэнне калібру жывёлы, якая і так невялікая. Вельмі часта можна спаткаць кароў чырвонай польскай пароды вагой 400 кг. А ў той жа час добрыя каровы нізіннай чорна-белай пароды важаць па 500—550 кг. Каровы шаралескай пароды ў сярэднім важаць каля 735 кл., але сустракаюцца асобныя каровы да 960 кг. Быкі значна цяжэйшыя. Сярэдняя іх вага складае 1140 кг, а найбольшыя — да 2 тон.

Вучоныя думалі над праблемай малочнасці (колькасць і тлустасць малака). І аказалася, што цяляты па бугаях — джэрсеях нават меншыя, чым па бугаях чырвонай польскай пароды. Тое самае можна сказаць і аб дарослых каровах, якія паходзяць ад скрыжавання гэтых парод. Дык можа шаралесы? Вельмі цікавымі былі б вынікі гэтай працы. Сямяціцкі павет атрымаў прадстаўніка гэтай пароды з мэтай паляпшэння якасці кароў на мяса.

Пры гэтай працы існуе наступная канцэпцыя. Бугаі — джэрсеі павінны садзейнічаць галоўным чынам павелічэнню працэнту тлушчу ў малацэ прыблізна да 5%. Улічваючы, што малачарні плацяць за колькасць тлушчу ў малацэ, гэта ўжо вялікія шанцы. У пэўнай ступені павялічыцца таксама і колькасць малака. Аднак пры цяперашнім напрамку на прадукцыю ялавічыны павелічэнне малочнасці коштам вагі кароў не вырашае праблемы. Трэба знайсці такія метады працы, якія дазволілі б значна павялічыць вагу цялят і здольнасці адкорму. Здаецца, што дасканалым матэрыялам да гэтага могуць быць іменна шаралесы.

Іх гадуюць у 50 дэпартаментах Францыі. З 1920 да 1946 года іх колькасць узрасла з 1,2 млн. да 2,5 млн. галоў. У рэгістрацыйных кніжках расплоднікаў запісана аж чвэрць мільёна бугаёў. Цяпер шаралесы — гэта адна з найбольш шматлікіх мясных парод на свеце. Нічога дзіўнага ў тым, што існуе такое зацікаўленне імпартам расплоднікаў гэтай пароды. Цяпер французскія жывёлагадоўцы прадаюць іх у 68 краін свету.

Расплоднікі шаралескай пароды выкарыстоўваюцца галоўным чынам для паляпшэння вагі жывёлы іншых парод.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

# ВЫДАВЕЦКІЯ СПАДЗЯВАННІ

Як вынікае з інфармацыі дырэктара Люблінскага выдавецтва — яшчэ ў гэтым годзе паявяцца ў продажу наступныя кніжкі беластоцкіх аўтараў: «Манаграфія (апісанне) Беластоцкага ваяводства», «Манаграфія Ломжы і Ламжынскага павета» і альбом графікі аб Беластоку мастака Вілька. Да Беластока адносяцца таксама ўспаміны варшаўскай журналісткі Сары Пшытык, якая акупацыю пражыла ў Беластоку. У кніжцы «Калоны Самсона» апісвае жыццё ў яўрэйскім геце і яго знішчэнне.

На 1967 год Люблінскае выдавецтва рыхтуе: гістарычныя нарысы Рышарда Краські п. з. «З тэкі шпэрача», апавяданні Аляксандра Амільяновіча «Барыкада», новы том вершаў Аляксея Казберука, успаміны палкоўніка Анаціка з часоў яго партызанскай дзейнасці — «У тылу ворага» і гістарычную апрацоўку Міхала Гнатоўскага аб савецкай партызантцы на Беласточчыне. Магчыма, што яшчэ ў 1967 годзе Люблінскае выдавецтва зможа надрукаваць паэтыцкі альманах членаў Карэспандэнцыйнага клуба маладых пісьменнікаў, а сярод іх і «Белавежцаў». (вр)

# КАМУНАЛЬНЫЯ ІНВЕСТЫЦЫІ БЕЛЬСКА

У гэтым годзе пачынаецца пабудова новага гарадскога водаправода, які заменіць дагэтуляшні малы і часовы. Новы водаправод перад усім забяспечыць горад у адпаведную колькасць вады, а таксама значна палепшыць яе якасць, лепш ачышчаючы яе ад жалеза. Пабудова інвестыцыі разложана на два гады. У гэтым годзе пры пабудове мае быць перароблены 1 200 тысяч зл., а агульны кошт вынясе каля 4 мільёнаў зл.

У наступным годзе прадбачваюць пачаць пабудову хімічнай пральні з лазняй. Пабудова будзе праводзіцца два гады, а яе кошт каля 4 500 тысяч зл. На гэту пабудову, а ў асноўным на яе першую «частку», чакаюць з нецярплівасцю і жыхары вёсак. Гэтая інвестыцыя будзе будавацца са сродкаў на т. зв. інвестыцыі хуткарэнтабельныя. Маем надзею, што не выпадуць яны з плана. (К)



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТУТ ПАЧАЛАСЯ ВАЙНА

(Працяг са стар. 1)


Руіны Цярэспальскіх варот крэпасці.

ні бамбардзіроўка з паветра не зламалі духа савецкіх салдат і афіцэраў. У адным з данясенняў нямецкага камандвання паведамлялася: «Рускія ў Брэст-Літоўску паказалі выдатную вывучку пяхоты і даказалі надзвычайную волю да самапраціўлення».

Прарваўшыся ў крэпасць, штурмавыя атрады нацыстаў адрэзалі групы савецкіх салдат адзін ад другога, акружылі і блакіравалі іх. У абаронцаў крэпасці не хапала зброі і боепрыпасаў — склады былі разваленыя і спаленыя. Савецкім воінам прыходзілася даставаць зброю ў баі. Разваленымі аказаліся таксама і прадуктовыя склады, склад з медыкаментамі. Сотні людзей умірала ад страты крыві. Раненых жанчын і дзяцей мучыў голад. І калі абаронцам крэпасці ўдавалася знайсці якую-небудзь ежу, то яе перш за ўсё дзялілі паміж раненымі, дзяцьмі і жанчынамі.

Асабліва пакутлівай для абаронцаў крэпасці была смага. Водаправод быў знішчаны ў першы дзень вайны, а калодзежаў, на тэрыторыі крэпасці не было. Усе доступы да абводных каналаў і да рэк немцы трымалі пад моцным абстрэлам.

Фашысты разлічвалі, што адсутнасць вады зломіць супраціўленне акружаных. Ваду прыходзілася здабываць рызыкуючы жыццём. Дзесяткі смельчакоў з біклажкамі і кацялкамі спрабавалі начамі выпаўзаць на бераг ракі, каб дастаць кропельку вады, але назад вярталіся нешматлікія. У гэтых неймаверна цяжкіх умовах гарнізон не здаваўся.


Скульптура Ф. Зільберта «Памрэм, але з крэпасці не адыдзем».


Удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці беларускі пісьменнік А. Махнач (у цэнтры) дае аўтограф.


Адкрыццё музея. Стужку разрэзвае адзін з кіраўнікоў абароны крэпасці дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, Герой Савецкага Саюза П. Гаўрылаў.


У музеі гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці.

Нямецкія войскі былі ўжо далёка на ўсходзе, а на граніцы прадаўжалі змагацца героі Брэсцкай крэпасці. Упартая і арганізаваная барацьба гарнізона працягвалася да ліпеня. У пачатку ліпеня парадзелыя і зняможаныя групы абаронцаў крэпасці былі разбіты і ўзяты ў палон.

На трыццаць другі дзень вайны быў узяты ў палон адзін з галоўных арганізатараў і кіраўнікоў абароны — камандзір Усходняга форта маёр Пётр Гаўрылаў. Уцалелы пры разгроме форта і застаўшыся адзін, ён беспаспяхова прабаваў выйсці з крэпасці. Знясілены да апошняй ступені, маёр Гаўрылаў быў знойдзены фашыстамі ў адным з казематаў. І ў гэтых умовах Гаўрылаў не здаваўся ворагу. Ён адстрэльваўся з пісталета, кідаў у немцаў гранаты. Толькі пасля таго, як патрыёт быў аглушаны і кантужаны нямецкай гранатай, ворагам удалося ўзяць яго.

Здзіўленыя мужнасцю і стойкасцю гэтага чалавека, немцы захавалі яму жыццё. Нямецкія афіцэры не раз прыязджалі ў лагер ваеннапалонных над Брэстам, каб паглядзець на савецкага маёра, які праявіў неймаверную волю да барацьбы. Савецкі народ высока ацаніў подзвіг герояў Брэсцкай крэпасці. Вышэйшай узнагароды — звання Героя Савецкага Саюза ўдастоены маёр Пётр Гаўрылаў. Зараз ён пенсіянер, жыве ў горадзе Краснадары. Былы намеснік палітрука Самвел Мацевосян узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

Пасмяротна ўзнагароджаны таксама палкавы камісар Яфім Фомін, капітан Іван Зубачоў, старшы палітрук Мікалай Несцярчук і іншыя абаронцы крэпасці.

С. СМІРНОЎ
пісьменнік

---

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

# ПУШЧАН-СКАЯ АДЫСЕЯ

18 ліпеня 1944 года выдаўся надзвычай пагодлівы дзень. На небе ні хмурынкі. Партызаны сядзяць у цяньку і гадаюць. Няўжо ўсё адбудзецца так проста: Чырвоная Армія прагоніць немцаў і праз некалькі гадзін, калі ласка, вылазь з лесу на вольную тэрыторыю? Хутчэй бы!.. З Косцем ідзём правяраць пасты. У гушчары нас даганяе Міша Лук'янаў:

— Таварыш камандзір, пусціце ў сямейны лагер!

Мы спыняемся.

Атрад аслаблены. Заставалася і так усяго тры кулямёты. Але ў Мішкі важнецкая справа — любоў! З-пад кепкі выбіваецца вялізны чуб, грудзі перакрыжаваны кулямётнымі лентамі з начышчанымі патронамі, у кулямёце — фіялетавыя званочкі...

— Толькі кулямёт аддай камузвода! — не вытрымліваю. Міша мнецца.

— Партызан без зброі для дзяўчыны, што кавалерыст без каня, — заўважае дабрадзей Косця. — Пусці яго ты з кулямё-отам, ён нас тут не ўратуе!

Паддаюся і на гэта. Мною валодаюць супярэчлівыя пачуцці. Разбірае бязмерная радасць: нарэшце дачакаўся самага галоўнага — канца. Выжылі і бацькі. Мо ўратаваўся там і Валодзька? Разам са мной выжыла вунь колькі хлопцаў і дзяўчат. На гэтым мае абавязкі камандзіра канчаюцца, хлопцам я болей не патрэбен. Праз пару гадзін выйдзем з пушчы на вызваленую зямлю, маё войска разбяжыцца па хатах. У той жа час чагосьці і шкада, мучыць няўпэўненасць.

Праверыўшы варту толькі для парадку, — хто сюды цяпер пойдзе? — вяртаемся ў лагер. У гушчары натыкаемся на Янку Баркова. Ён грэбаецца ў імшарніку, дастае свае бутэлькі з дакументамі. Тут дзесьці захавана і мая заява з пратаколам сходу, на якім мяне прымалі ў камсамол.

— Дзве бутэлькі ніяк не знайду, ёлкі-палкі... — бурчыць Ваня, заклапочаны. Ля буданоў хлопцы чысцяць вінтоўкі, прышываюць гузікі. Кулямётчыкі Кардаш і Яроцкі прыладзілі люстэркі ў шчыліны кары сасны, голяцца. Люба з Нікіцінай заплятаюць косы. Ля вогнішча жанчыны даварваюць абед. Мама галінкай адганяе камароў, бацька прыладжвае абцас да бота, які адбіла нямецкая куля пры сутычцы на Шындзялцы. Лес аж звініць ад птушынага шчэбету, п'яніць водарам разнатраўя. Ракочуць самалёты. Стары спыняе нас, пераможна пытаецца:

— Чуеце? Ну, недзе і іду-уць, поўнае неба, рота за ротай! Ну і даду-уць!

З Косцем садзімся на паваленую елку, слухаем таксама.

На ўсходзе цішыня. Затое на поўначы і поўдні ад выбухаў дрыжыць зямля. Часамі міны далятаюць пад наш лагер, разрываюцца ў верхавінах дрэў, напаўняюць паветра сінім дымам і вострым смуродам гарэлай серы. Сыплюцца зялёныя іголкі, шышкі, ссечаныя галінкі. Ніхто выбухаў не баіцца: міны ж нашы, самалёты лятаюць, гарматы б'юць нашы, ці ж могуць зрабіць нам шкоду?.. Камісар перажывае тое, што і я, таму Косця таксама вялы і нерашучы. Адзін Міцька Карповіч сабраны і насцярожаны. Яго рослая, энергічная фігура вынырае з гушчару.

— Давайце яшчэ раз абмазгуем, што робіцца на полі! — прапануе.

Яшчэ ўчора ў напрамку Ваўкавыска грымела артылерыя, а сёння зранку грыміць толькі на поўначы і поўдні.

— Фронт раздвоіўся аб масіў пушчы! — разважаю.

— Хлопцы, як сабе хочаце, а мне не падабаецца цішыня ля вёскі Юзафова, — заяўляе Міцька. — На досвітку, калі хадзіў у разведку, то чуў выразна страляніну. Чаму цяпер там маўчаць? Куды дзяваліся тыя немцы? Калі адступілі, то дарога для іх самая простая — па просецы ля нашага лагера!

— Тады вартаўнік іх бачыў бы! — кідае камісар. — Не інакш, нашы іх сцерлі з зямлі зусім...

— Выходзіць, трэба знімацца і весці атрад на злучэнне? — не магу стрымаць радасці.

— Ці не зарана? — спыняе бацька. — Каб дарога была адкрыта, то, нябось, Казусік прыпёр бы ўжо сюды!..

Бацька не вельмі давяраў нашым разведчыкам, наладзіў сваю сетку сувязных. У Юзафове галоўным сувязным у яго — сястрын муж, Юляк Казусік. Яшчэ не было выпадку, каб людзі з бацькавай агентуры памыліліся. Шкада, што яго разведчыкі ўсе пажылыя, весткі іхнія і парады не заўсёды супадалі з нашымі жаданнямі, і пamірыць нашы імкненні з неабходнасцю бацьку не заўсёды ўдавалася.

Нацягнуўшы адрамантаваны бот, стары кідае:

— Хлопцы, не парыце гарачкі!

— А чаго чакаць? — пярэчыць камісар. — Лес цяпер для нас якраз і небяспечны, кішыць ад немцаў!.. Цяпер яны злыя, азвярэлыя. Праз тыдзень, калі прыпрэ голад, будуць самі вылазіць з гушчару і прасіцца!

— Вам відней, вы камандзіры, я толькі папярэдзіў.

Усім раптам хочацца да сваіх так, што не можам устаяць на месцы. Здаецца, і дыхаць прасторней ад таго, што на ўсходзе няма ўжо немцаў.

— Пасылай у Юзафова разведку! — загадваю начштаба.

ПРАЦЯГ БУДЗЕ



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## Ці толькі чэрвеньскія роздумы?..

Засталося мала часу да канца навучальнага года. Кожны сарваны з календара лісток набліжае дзень, калі празвініць апошні званок.

У чацвёртай чвэрці заканчваецца вывучэнне праграмы, ідзе паўтарэнне і замацаванне пройдзенага матэрыялу. Веды вучняў абагульняюцца і сістэматызуюцца. Вучні трэніруюцца на тэкстах і практыкаваннях у граматнасці. Пішуць ізлажэнні і сачыненні. І настаўнікам усіх прадметаў, у тым ліку і беларускай мовы, важна рацыянальна выкарыстоўваць кожны ўрок да паўтарэння і паглыблення пройдзенага.

Паўтарэнне вельмі патрэбнае для школьнікаў. Яны ўзнаўляюць у памяці тое, што ў свой час вучылі, каб не «згубіць» раней засвоенага, каб іх веды былі трывалымі.

У пачатковай школе ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) на калідоры вывешаны плакат «Да заканчэння навучальнага года засталося... дзён». Лік на ім вучні штодня змяняюць. І вучань і настаўнік, праходзячы міма, гляне на плакат. І працуе кожны больш дакладней, з большым пачуццём адказнасці. У гарачую пару апошняй завяршаючай чвэрці гэта асабліва важна, асабліва патрэбна. Часцей можна ўжо цяпер пачуць ад настаўніка «дыягноз»: «Застанецца на другі год». У таго ці іншага вучня, незалежна як ён рэагуе на гэтыя словы, паявяцца на вачах слёзы. Бывае і наадварот, можа паявіцца нават пагардлівая ўсмешка на твары (у таго, што ўжо страціў ахвоту да навукі). Педагогу нялёгка вымаўляць словы «Застанецца на другі год», хоць да такой школьнай з'явы ўсе яны з часам прывыкаюць. Некаторыя настаўнікі не любяць «вазіцца» з адстаючымі вучнямі і выдаюць такі «дыягноз» вучню, а гэта таму, каб мець «спакойную» галаву. Несумненна, можна абыякава прайсці каля такога факту, каб не ўзяць пад увагу, што неабходна з імі папрацаваць пасля ўрокаў. Асабліва калі тыя вучні не наведвалі школу з важных прычын. Многа вучняў не атрымала належнай падрыхтоўкі ў малодшых класах і непазбежна трапляе ў цяжкае становішча, і хутка можа апынуцца ў гультаях.

Але і адстаючых не трэба аб'яўляць гультаямі ці непаўнацэннымі вучнямі. Не трэба прывыкаць нам, педагогам, да паспяховасці, а трэба выступіць з дзейснай дапамогай такім. Ці не варта прызадумацца над гэтым яшчэ кожнаму вучню і педагогу, а не чакаць... на апошні званок?

**Янка Цялушэцкі**
Старое Ляўкова




**ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!**

«Я маю 17 год, адна ў бацькоў. Пазнаёмілася я з хлопцам з суседняй вёскі на забаве. Танцаваў са мной цэлы вечар, а потым адвёў дахаты. Ён мне вельмі спадабаўся, я прадчуваю, што я ўжо яго пакахала. На другі дзень ён наведаў мяне дома, а пад вечар я адвяла яго да цягніка, і ён паехаў дамоў. Цяпер не магу аб ім забыць. Дарагое Сэрцайка, што рабіць, ці выходзіць за яго замуж ці браць у прымы» — піша **Вера** з Гайнаўскага павета.

**Вера!** Твой ліст выдаўся мне трохі смешным, а праўду кажучы, не твой ліст, а тваё запытанне. Па-першае, ты яшчэ маеш толькі 17 год і пра замуж табе зарана думаць, а па-другое, ён жа ж табе не гаварыў аб жаніцьбе. Зрэшты, як можна гаварыць аб жаніцьбе сустрэўшыся толькі раз з дзяўчынаю? Добра, што ён табе, Вера, спадабаўся, а яшчэ лепш было б, калі б і ты яму таксама спадабалася. Калі і ты яму спадабалася, напэўна будзе пісаць да цябе і прыязджаць. А тады і ўсё будзе добра. Перад вамі сустрэчы, забавы, прыгожыя летнія вечары. А калі акажацца, што гэта не памылковае каханне, як кажуць, тады і падумаеш аб замужастве, а пакуль што павінна толькі цешыцца маладосцю, якая бывае адзін раз у жыцці.

Жадаю ўсяго добрага
**СЭРЦАЙКА**

## НА „ІВАНА"

**Як усе суседнія вёскі склікаюць гасцей, а моладзь робіць забаву на «Спаса» ці на «Пакрову», таксама і ў Паўлах святкуюць «Івана» (21 мая). Праз адкрытыя вокны многіх хат вылятали розныя песні, а найчасцей украінская «Разпрагайтэ хлопці коні». У зале рамізы Віця да адказу разцягваў «Вельтмейстра», а Ваня, яго брат, не шкадуючы «лупіў» у бубен. Ігралі «Марыянку». Незлічоная колькасць пар запоўніла цэлы будынак рамізы. Спявалі, танцавалі, весяліліся Ноч была цёплая. Неба чыстае, засыпанае залатымі зоркамі, якія адна за адной пачыналі гаснуць. На ўсходзе неба пачынала ружавець. З рамізы далёка несліся яшчэ музыка і песні. Ляцелі яны за вёску ў зялёныя палі, і там прападалі, пакідаючы за сабой рэха.**

**КОЛЯ В.**
Паўлы

## ПЕРАДАВЫ ГАСПАДАР

**Да перадавых гаспадароў у нашай вёсцы Чыжы залічваецца Пятро Ціханюк. Ён гаспадарыць на 8 га зямлі. Хаця зямлю мае не найлепшую, чэрпае з яе высокія ўраджаі. Вялікую ўвагу прывязвае ён да ўгнаення глебы і да колькасці яго на 1 га, а таксама да якасці насення. У гэтым годзе Пятро Ціханюк закантрактаваў 0,5 га часнаку. Дзякуючы добраму догляду і добраму ўгнаенню ўжо цяпер відаць, што дасць ён вялікія плёны. Пятро Ціханюк не толькі спецыяліст па вырошчванню сельскагаспадарчых культур, але таксама ў жывёлагадоўлі. Пятра Ціханюка часта можна ўбачыць пры чытанні сельскагаспадарчых газет і часопісаў.**

**ЯНКА ГРАМАДСКІ**
Чыжы

## У ПІЛІЦКАЙ СВЯТЛІЦЫ

**У Піліках ёсць грамадская святліца, у якой працуе Марыся Грыгарук. Тут таксама знаходзіцца клуб «Рух». Гаспадаром з'яўляецца Яніна Жукоўская. Трэба сказаць, што дзяўчаты добра працуюць. Заўсёды ў іх чысціня і парадак. Прыемна пасядзець у такім клубе.**

**У святліцы ёсць тэлевізар, радыё, грамафон. У чытэльні можна знайсці розныя часопісы і газеты. Стары і малы знойдзе сабе разрыўку. Кожны дзень да позных гадзін не патухаюць агні ў піліцкай святліцы. Моладзь і старэйшыя жыхары аглядаюць тэлевізійныя перадачы. Пры святліцы існуе вакальна-інструментальны калектыў, якім кіруе Пятро Нявінскі, які даязджае з Бельска. Два разы ў тыдні (панядзелак і чацвер) моладзь збіраецца на рэпетыцыі. Не раз выступалі яны ў сваёй святліцы. Піліцкі калектыў вядомы і ў аколіцы.**

**У Дні асветы, кніжкі і прэсы святочна выглядала піліцкая святліца. На сценах лозунгі, насценныя газеты. На століках выстаўкі кніжак.**

**МАЦЕЙКА**
Бельскі павет

## ШКОЛЬНЫ ПАХОД

**У вёсцы Белкі існуе чатырохкласная пачатковая школа. Кіраўніком школы з'яўляецца Яніна Міладоўская. Ужо многа год вучыць яна ў нашай вёсцы. Дзеці вельмі любяць і шануюць сваю настаўніцу. 25 мая арганізавала яна паход са школьнай моладдзю ў вёску Малынка. У Малынцы дзеці спявалі беларускія і польскія песні. Пад музыку гарманіста — вучня Яўгеня Шумелюка дзеці доўга танцавалі.**

**«ЯРОШ»**
Белкі

## РОСТ РАДОЎ ПАРТЫІ

**Апошнім часам экзекутыва Гарадскога камітэта ПАРП у Гайнаўцы зацвердзіла трыццаць новых кандыдатаў у члены партыі. Найбольшая колькасць кандыдатаў выводзіцца з асяроддзя ліцэйскай моладзі.**

**Варта адзначыць, што ў ліку 30 кандыдатаў знаходзіцца дванаццаць жанчын. (ся)**



На здымку: Юзэф Назаровіч выконвае зямныя работы.

## ПАСЫНКІ — КОЖЫНА

Прэзідыум ГРН у Пасынках пастанавіла ў гэтым годзе адрамантаваць дарогу Пасынкі — Кожына. На гэта прызначана 180 тыс. зл. з фонду грамадскай рады нарадовай. Павятовыя ўлады ў Бельску прызнаюць таксама пэўную суму грошай. Шмат работы будзе выканана грамадскім чынам сялянамі грамады.

Зараз на 2-ух кіламетравым адрэзку дарогі вядуцца зямныя работы.

Тэкст і фота **П. Зінкевіч**
Бельск

## ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ — „НІВА" АДКАЗВАЕ

**Пытанне:**

Я наймаю памяшканне ў прыватнай асобы ў доме, які выключаны з-пад публічнай гаспадаркі памяшканнямі. Плачу па 300 зл. у месяц. У маім памяшканні разваліласяпечка. Я звярнуўся да гаспадара з просьбай, каб ён паставіў новую печку, аднак гаспадар адказаў, што гэта не яго справа, і што я сам павінен на свой кошт яе паставіць. А я чуў, што гэта павінен зрабіць уласнік памяшкання. Як гэту справу вырашае права, і што мне рабіць?

**Адказ:**

Паводле закону толькі дробныя рамонты павінен зрабіць наймальнік. Перабудова печы належыць да ўласніка памяшкання. Найлепш будзе, калі Вы звернецеся да ўласніка дома ў пісьмовай форме і вызначыце яму адпаведны тэрмін. Калі ў гэтым тэрміне ён печкі не паставіць, можаце самі наняць печніка і паставіць печ, а пасля альбо адлічваць ад плачанага чыншу, або даходзіць звароту вашых выдаткаў праз суд.

**„Ніва"—у кожнай беларускай сям'і.**

## УЛАДЗІМІР КУПТЭЛЬ

Уладзімір Куптэль з Ягаднікаў пакладае шмат намаганняў, каб павысіць сельскагаспадарчую вытворчасць у сельскагаспадарчым гуртку сваёй вёскі, які ім узначальваецца. Функцыю старшыні сельгасгуртка выконвае ён ужо другую кадэнцыю. Павятовае праўленне сельгасгурткоў у Гайнаўцы даверыла яму таксама нагляд над усімі справамі, таму што ў першай кадэнцыі свайго старшынства ён правільна павёў і арганізаваў усе працы ўключна з выкарыстоўваннем усіх сельскагаспадарчых машын, а таксама і таму, што ён з'яўляецца самым перадавым гаспадаром сваёй вёскі.

Гаспадарыць на 12 гектарах. Шматраслін кантрактуе. Яго збожжа ідзе на рэпрадукцыю, забяспечвае сялян кваліфікаваным насеннем.

Уладзімір Куптэль вырошчвае многа кармавых раслін, сее нават кукурузу і кармавую капусту. У двух сіласах на зіму рыхтуе шмат пашы для быдла, якога мае (чырвонай польскай расы) 16 штук. У гэтым ліку 6 дойных кароў, 8 яловак і 2 бугаі.

Тэкст і фота **Мікола Пракапюк**



**Выгадаваны Уладзімірам Куптэлям бугай чырвонай польскай расы. Яму 16 месяцаў, а вага 495 кг.**

# КІНО

**Праграма
на 21—27. VI. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Дубіны**
„Opowieści znad Donu" (radz.), „Człowiek, który stchórzył" (czeski), 26—27.

**Нарва**
„Cena odwagi" (bułg.), „Orkiestra wojskowa" (węgierski), 22—26.

**Нараўка**
„Ostatni lot" (radz.), „Winda towarowa" (franc.), 22—26.

**Чыжы**
„Czarne i białe" (USA), „Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 22—26.

**Дубічы Царкоўныя**
„Casanowa znad Dunaju" (węgierski), „Nowy Gilgamesz" (węgierski), 22—26.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Ambicja" (radz.), „Czas miłości" (rumuński), 22—26.

**Райск**
„Człowiek, który zabił Liberty Valencea" (USA), 22—26.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Mój stary" (polski), 21—22. „Kraksa" (radz.), 23—24. „Potem nastąpi cisza" (polski), 25—26.

**Міхалова**
„Tak blisko nieba" (czeski), 21—22. „Pożegnania" (polski), 23—24. „Siódmy przysięgły" (francuski), 25—26.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Susza" (brazylijski), 21—22. „Mój stary" (polski) 23—24. „Ojciec żołnierza" (radz.), 25—26.

**Мілейчыцы**
„Kto sieje wiatr" (USA), 21—22. „Czarne skrzydła" (polski), 23—24. „Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 25—26.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Twarzą w twarz" (jugosłowiański), „Drewniany różaniec" (polski), 22—26.

**Сідра**
„Mezalians" (czeski), 21—22. „Dwadzieścia godzin" (radz.), 23—24. „Ranny w lesie" (polski), 25—26.

**Сухаволя**
„Troje i las" (polski), Miłość jednej nocy" (rumuński), 25—26.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Przygody Mauchausena" (czeski), „Czerwony atrament" (węgierski), 25—26.

У мясцовасці Боцькі, Кляшчэлі, Крынкі, Янаў, Новы Двор у днях 21—26 фільмы высвятляцца не будуць.

**НІВА**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 5458. Bltk D-3



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# НІЎКА

## СЫНКІ

Шкадуюць сваю маці, Акуліну, сыны Яўген і Макар. Заўсёды называюць яе роднай, мілай, дарагой. Пры сустрэчах абдымаюць, чмокаюць у шчокі.
Сёння па дарозе ў кіно забег да маці Яўген з жонкаю Нінай, каб пакінуць свайго гадаванца...

— Няхай, мама, Анатолька ў вас і пераначуе, — сказаў Яўген. — Ён рана кладзецца спаць, а мы ж на апошні сеанс. Заўтра падвечар мы яго забяром.

— Як гэта падвечар? — перапытала маці. — Хіба ты не ведаеш, што раніцаю мне трэба бегчы да Макара, каб там няньчыць Андрэйку і Алёнку!

— Зноў бегчы! — злосна сказаў Яўген. — Заўсёды ты, мама, бегаеш, а калі адпачываць будзеш? У нашага Макара і кроплі сумлення няма. Так і цаляе, каб на тваё плечы ўзваліць, даражэнькая, якую-небудзь работу. Нягоднік! Пачакай, я яму скажу некалькі прыемных слоў, хай толькі спаткаемся!..

Не паспела маці зачыніць дзверы за Яўгенам і Нінай, як на парозе ўжо стаяў Макар.

— Спецыяльна забег, мама, на хвілінку, — пачаў ён скарагаворкай. — Ліда прасіла, каб заўтра ты да нас прыйшла не а палове дзевятай, як звычайна, а на паўгадзінкі раней. Ёй трэба...

— Дзядзька Макал, — закрычаў у гэты час Анатолька і кінуўся абдымаць дзядзькавы ногі.

— А чаму Анатолька ў вас? — ускінуў пушыстыя бровы Макар.

— Пайшлі ў кіно, а яго пакінулі тут.

— Які ж гэты Яўген бессаромны чалавек! — злосна сказаў Макар.

— Сам у кіно, а ты, мама, глядзі за Анатолькам! Зусім ён страціў сумленне. Не шкадуе ён цябе, роднен'кая, не шкадуе. Ах, нягоднік! Прыдзецца мне з ім пагаварыць.

Пастаяў Макар, пагладзіў, па галоўцы пляменніка. — Што, мама, сказаць Лідзе?

— Думала бялізну мыць, — сказала нясмела маці. — Усе мы тут... зараслі.

— Адкладзі, даражэнькая, на нядзелю. Мы з Лідаю будзем выхадныя і абыдземся без цябе. Вось тады і зоймешся бялізнай.

Цяжка ўздыхнула Акуліна Піліпаўна, а Макар чмокнуў у шчаку старую і падаўся з хаты.

— Глядзі ж не пазніся! — крыкнуў ёй з парогу.

**Ул. Мяжэвіч**

### ЗАБЫЛАСЯ

Прыйшла суседка да хворай суседкі.

— Я ўжо дзве гадзіны гутару з табою, а ты ні разу не застагнала.

— А, мілая, я вось з табою так загаманілася, што і стагнаць забылася.



Без слоў.

### ШТО ЛЯГЧЭЙ

**Нейк паклікаў Пятро суседа Івана на свяжыну. Жонка засмажыла пячонку, ныркі, лёгкія, кілбасу і паставіла на стол. Бачыць Пятро, што Іван толькі на кілбасу націскае, ды й кажа:**

**— Іван, паспрабуй лёгкія...**

**— А мне і кілбаса не цяжкая, — адказаў Іван.**




*Не кланяйся вельмі нізка — будзе балець спіна.*

### Кур'ёзы

### У СУВЯЗІ З ПАСТАНОВАЙ

У сувязі з нядаўна прынятай пастановай муніцыпальных улад акругі Ангра-дос-Рэйс (штат Рыо-дэ-Жанейра) усе аслы, мулы і коні ў рабочы час абавязаны насіць... спецыяльныя штонікі. Паліцыі дадзены строгі загад сачыць за выкананнем гэтай пастановы. Заставацца ў «голым выглядзе», — як растлумачыў начальнік мясцовай паліцыі, — цяглавай жывёле дазваляецца толькі ў канюшні. Гэтая пастанова прынята ў рамках мерапрыемстваў, якія накіраваны на падтрыманне чысціні ў горадзе, а таксама ідучы насустрач пажаданням некаторых з тых, хто вызначаецца выключнай нявінна-сцю.



— Уступіў бы бабульцы месца.
— А яна ў дурня гуляць умее?

## ГРАЗЬ

(Байка)

Наранку сонечнага дня,
Узмежак зрыўшы ўвесь ля плоту,
Улезла віславухая свіння
Ў балота.
Разлеглася, як на пярыне князь,
Па вушы ўпэцкалася ў гразь
І вылезла адтуль брыдотаю брыдота.
Да бруду скрозь адзіны падыход:
Заўсёды пысу мые кот,
Старанна поўсць вылізвае сабака
І курыца заўжды сябе ў парадак прывядзе.
Свіння ж па вуліцы ідзе,
Увагі не звяртаючы ніякай,
Што гэткім выглядам сваім
Ва ўсіх агіднасць выклікае.

— ■ —

Была падзея вось такая
І з нейкім чалавекам. (Ці з адным?)
Ён нейкай дрэні налізаўся
І так на людзі паказаўся.
На ім і капялюш, на ім і паліто.
Паводзіны ж — агідна глянуць.
Ідзе, вярзе, — аж вушы вянуць.
І хоць бы што!

**Уладзімір Корбан**




**Каб быць людскім, трэба для ўсіх людзей быць чалавекам.**

*

**Часта чалавек здзіўляецца, што адкрывае свае ўласныя думкі.**

*

**Ёсць людзі, якія маюць лакіраваныя думкі, але падпісваюць крыжыкамі.**

*

**Кожны чалавек арыгінальны.**

*

**Міхась меў шчырыя пажаданні быць паэтам, але не дачакаўся натхнення.**

### ПАСЛЯ ЛЕКЦЫІ

— Як вы маглі перашкаджаць мне ў часе лекцыі? — спытаў выкладчык у студэнта.

— Я?.. Але ж не было нічога падобнага...

— Не адмаўляйцеся — я выразна чуў ваш голас!

— Ну, то я хіба праз сон нешта гаварыў... — сціснуў плячыма студэнт.

### АПОШНЯЕ СЛОВА

Сусед хваліўся суседу:

— Ты ведаеш, мая жонка захацела купіць яшчэ адну новую сукенку. Я запярэчыў, бо яна ж нядаўна ўжо пашыла дзве. Жонка трымалася свайго, але апошняе слова было такі за мною.

— Што ж ты ёй сказаў? — пацікавіўся сусед.

— Ды дазволіў купіць яшчэ адну новую сукенку.

### У СУДЗЕ

Сяддзя: — Падсудны, вы ноччу забраліся ў кватэру суседа. Што вы там рабілі?

Падсудны: — Я быў п'яны і думаў, што гэта мая кватэра.

Суддзя: — Ну, добра, але чаму, калі пачулі, што йдзе гаспадыня, вы схаваліся пад ложак?

Падсудны: — Бо я думаў, што гэта йдзе мая жонка...



### ХТО ВІНАВАТЫ

Муж з жонкаю спазніліся на поезд.

— Гэта ты вінавата, што мы спазніліся, — пачаў муж.

— Не, гэта ты вінаваты, — запярэчыла жонка. — Калі б ты даў мне спакойна сабрацца, то нам менш часу давялося б чакаць да наступнага поезда.



## ЭПІТАФІІ

**ЛАЙДАКУ**

Яму адпольквава, ці паміраць, ці жыць —
Жывы ляжаў, і тут ляжыць.

**МЕНТАРУ**

Нарэшце люд знясілены спачыў
Ад языка, што ўсюды ўсіх вучыў.

**ВАСІЛЬ СІМАНЕНКА**

## ПАДКАЖЫ

Словы М. Гарулёва
Музыка Ю. Семяняк




*Ой, сяброўка дарагая,*
*Падкажы мне, што рабіць?*
*Я смяюся і спяваю,*
*Толькі сэрцайка баліць.*

*Не прашу, каб ён здалёку*
*Між другіх мяне пазнаў,*
*Хоць бы зрэдку кінуў вокам,*
*Слова цёплае сказаў.*

*Ты любові не цурайся,*
*Не сумуй і не тужы,*
*А сама яму прызнайся,*
*А сама яму скажы.*

*Можа сэрца і не камень,*
*Можа зменіцца пагляд,*
*І абсыпле вас вянкамі*
*Малады вясновы сад.*

*Ой, сяброўка дарагая,*
*Падкажы мне, што рабіць?*
*Я смяюся і спяваю,*
*Толькі сэрцайка баліць.*

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024